Кошт паштоваў перасылкі аплачана агулам.

№ 14 | Нядзеля, 17 Жнiўня 1924 г. | Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два [illegible] тыдзень. | Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 ме[illegible] 20 гр.
За граніцу ўд[illegible]

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11 — 1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10 гр.; на апош. стар.— 5 гр.



## Ад Рэдакцыі і Адміністрацыі.

Падпісчыкі й чытачы, нашае газэты, якія ўнясуць падпісныя грошы **за ўвесь час да канца бягучага году,** адтрымаюць у канцы гэтага году, як БЯСПЛАТНАЕ ПРЫЛАЖЭНЬНЕ да газэты, вялікі

**КАЛЕНДАР-КНІЖКУ**

на 1925-ты год. Календар гэты, які цяпер падрыхтоўваецца да выданьня, будзе зьмяшчаць у сабе самы абшырны матар'ял, даючы магчымасьць кожнаму беларускаму селяніну й інтэлігэнту знайсьці для сябе самым найпрасьцейшым шляхам усе патрэбныя спраўкі й парады, як праўнага характару, так асабліва і з галіны сельскае гаспадаркі.

# Насьпеўшая справа.

*(Аб курсах Беларускай мовы).*

З восені гэтага году, а значыць ужо цераз вельмі кароткі час увайдуць у сілу, прайшоўшыя праз заканадаўчыя установы Польскае Рэспублікі, законы аб правох беларусаў, разам з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі, карыстацца сваёю мовою ў школах, судох і адміністрацыйных інстытуцыях.

З гэтага выцякае простая неабходнасьць якнайшыбчэйшае падгатоўкі таго, ці іншага ліку граматных пабеларуску працаўнікоў, якія зьявіліся-б тэхнічнымі праваднікамі ў жыцьцё сказаных законаў.

Сядзець і чакаць, пакуль нехта зробіць за нас датычачую нас справу, ня прыходзіцца.

Беларускае Грамадзянскае Сабраньне, маючы гэта на ўвазе, ўзяло на сябе ініцыятыву арганізаваньня кароткатэрміновых курсаў беларускае мовы, праслухаўшы якія, працаўнікі - канцэлярысты, альбо народныя настаўнікі, маглі-б стаць першымі кандыдатамі на магчымыя ў блізкай будучыне новыя месцы працы.

Трэба спадзявацца, што праз некалькі дзён падгатоўчая работа па арганізацыі курсаў закончыцца і абвешчана будзе запісь слухачоў.

Кожны беларускі інтэлігэнтны працаўнік, які сапраўды гатоў служыць свайму народу пры якіх-бы то ні было варунках, павінен споўніць свой сыноўскі абавязак перад нашым сярмяжным народам і паступіць на курсы роднае мовы.

Знаць сваю матчыную мову практычна — гэта адно, а знаць дзеля карыстаньня ёю на пісьме —гэта саўсім другое, і дзеля гэтага нікому не пашкодзіць большае ці меншае азнаямленьне з чыста навуковымі, граматычнымі правіламі нашае мовы.

Гэтым будзе даказана ўсім і кожнаму, што істнуе ня толькі гарапашны беларускі селянін, а істнуе яшчэ і тая народная інтэлігэнцыя, без якой ня можа разьвівацца ніводзін народ на сьвеце.

Мы сьмеем быць пэўнымі, што з боку дзяржаўнае польскае ўлады ня толькі ня будзе стаўлена ніякіх перашкод чыста прасьветнай задачы, пастаўленай перад сабою Беларускім Грамадзянскім Сабраньнем, але можна навет спадзявацца на поўнае падтрыманьне з боку ўраду што да гэтае задачы, бо сам-жа ж ўрад прызнаў патрэбнасьць вышэйспомненых законаў, уносячы іх у Сойм Рэспублікі, і сам урад павінен разумець добра, што без беларусаў, пры правядзеньні гэтых законаў у жыцьцё, абыйсьціся нельга.

Можна спадзявацца, што пэўная група віленскіх беларусаў, якія прывыклі шукаць на вярбе грушаў, ня лічачыся ані з рэальным бегам жыцьця, за гэтую справу чыста - культурнага характару ня возьмецца, а можа навет коса будзе паглядаць на яе.

Але - ж высокапалітыканскай кампаніі, прывыкшай да манапольнага права гаварыць і пісаць ад імя *ўсяго* беларускага народу, праўду сказаць, няма й часу на нейкую там будні́чную „дробную“, на яе пагляд, работу.

Сьвядомая беларуская інтэлігэнцыя павінна прайсьці міма вузкага палітыканства пры разрашэньні практычных задачаў чыста культурнага характару, павінна проста і цьвёрда скарыстаць з тых правоў свайго народу, якія сягоньня знайшлі агульнае прызнаньне.

Пара ўжо зразумець, што ўсякім самым найлепшым правам трэба ўмела карыстацца, пара пераканацца, што жывём мы не ў старыя часы маскоўскага панаваньня, калі ўсё было *казённым*, а грамадзянін (тады падданы) павінен быў толькі гнуць шыю ды слухацца, бо за яго рабілася ўсё тою ўладаю, якая перастаўляла яго, як пешку на шахматнай дошцы, паводле сваіх плянаў і інтарэсаў.

Што датычыць самае сутнасьці беларускіх курсаў, дык задачаю іх мусіць быць больш - менш роўнае аднолькавае падрыхтаваньне патрэбнага контынгэнту працаўнікоў, якія, ўсвоіўшы граматычныя законы роднай мовы, ўжывалі-б яе пры сваёй будучай працы ўсюды, дзе ім давядзецца, аднолькава і правільна, каб ня было падобным прыстасоўваньне роднай мовы ў жыцьці да калечаньня гэтае самае мовы кожным беларусам - провінцыялам на свой лад.

Дасюль, па розных прычынах, ніякіх больш - менш шырэйшых курсаў беларускае мовы немагчыма было праслухаць, бо ніхто ня меў і пільнае практычнае патрэбы зрабіць гэта. Сягоньня справа гэтая сталася гаручаю і да яе трэба першымі падыйсьці самым шырокім кругом беларускага грамадзянства.

# Аб людзях і грошах.

У гарачы поўдзень на вуліцы Міцкевіча двох спацеўшых і зморaных сялян прыселі ля мяне на лаўцы. Старэйшы з іх гадоў 40—45 у хадаках, другі, малодшы, ў ботах, трымае торбачку з закускай.

— Ось табе і грошы,—кажа старэйшы чалавек, выціраючы рукавом пот з твару.

— А я-ж табе наперад казаў, што з чым прыдзем з тым і вернемся, — адказвае малодшы. Тут толькі ім нясі, а сам ня пытайся...

Зацікаўлены іхняю гутаркаю, пытаюся, што ў іх за справа.

— А ведаеш, панок, абярнуўшыся да мяне, — кажа старэйшы, — мы з Ашмяншчыны, ён мой брат,—кіўком галавы паказваючы на малодшага.

— У гэту зіму мы з ім у нашага пана Дундальскага закупілі крыху зямлі і далі палову грошай, цяпер хацелі заплаціць рэшту, але-ж бяда што падыйшла гэтакая пара, што ў нас не хапае грошай і на вёсцы ў нікога не дастаць... так што хоць трэсьні...

Ось, дзеля гэтага мы і прыехалі у Вільню. Войт нам казаў, што ў Вільні, ёсьць шмат такіх банкаў, якія даюць грошы пад зямлю і на зямлю. Мы і прыехалі, і давай хадзіць, проста ад вакзалу, па ўсіх банках...

— Праўду сказаўшы, пачалі мы, як гэта казаў нам войт; перш за ўсё абайшлі **ральнічыя,** пасьля **людовыя,** краёвыя, **нарадовыя,** гандлёвыя, прамысловыя, крэдытныя і, здаецца... шмуглёвыя. Усіх не пералічыць, нешта будзе з трыццаць. У тым канцы вуліцы знайшлі нейкі „спалзьдерчы“, а ось тутака старарэжымны, які быў яшчэ перад вайной.

Усюды куды ні зайдзеш кажуць нам, што грошы прымаюць, але не пазычаюць.

— Ну, і банкі-ж пайшлі навет і гэты старарэжымны. Калі гэтак будзе, дык Бог ведае, што будзе... закончыў старэйшы.

Нічога, братко, ня зробіш, — пачаў ізноў старэйшы да брата, пайдзём вып'ем дзе - нібудзь па шклянцы гарбаты, закусім, а пасьля да адваката...

* * *

Вышэйпаданы пролёг ня выдумка, а факт, характэрызуючы трагічнае гаспадарчае палажэньне нашага селяніна - беларуса. Гэта нам ясна даказавае, што агульна - гаспадарчы і фінансавы крызыс ў аднолькавай меры захапіў як гандляра, так і селяніна.

Гандляру гэты грашавы „пост“ заслужаны пост; у нейкім родзе ён прыслужыўся да гэтага. Навет ня шкодзіла, каб ён крыху пацярпеў, бо тады калі была марка і ўсё падала, дык ён свой тавар падвышаў і, нарэшце, купіўшы на вэксалі, заплаціў самую мізэрную суму. Гандляр грашавую палітыку добра знае і ведае, што і як яму рабіць, каб яго машна ня скурчылася...

Другая справа ў нашага селяніна. Селянін наш нічога на вэксалі ня купляў, а за гатоўку і, калі прадаў старую ці перадойку карову, то на другі кірмаш мог купіць толькі цялушку. Дзеля гэтага, ў яго вырабіўся пагляд на грошы, як на нешта праклятае... На такі пагляд уплыло яшчэ палажэньне напярэдніх валютаў. Напрыклад,—калі селянін меў колькі грошай на чорны дзень, будзь гэта ў банку ці дзе пад печкай, калі ня золата — яны прапалі, меў ён керэнкі, думскія, нямецкія маркі, осты, царскія з дзіркамі і бяз дзірак, польскія маркі, мільёны марак і, нарэшце, прышоў злоты, моцны, можа навет аж замоцны.

Фактычна, сучасны злоты не замоцны, а сьціснуў ад таго, што крыху караткаваты. Але-ж, каб і быў даўжэйшы, дык ад гэтага нашаму селяніну з яго паглядам ня было-б лепей. Прычыну труднага палажэньня селяніна будзем разглядаць з другога боку.

* * *

Сем гадоў сусьветнай вайны, якая перавярнула ўсе дагары нагамі, якая найбольш скрыўдзіла селяніна, не маглі карысна ўплысьці на псыхолёгію селяніна і вырабіць у яго здаровы пагляд на папяровы грош і яго фактычную ролю ў гаспадарчых зносінах.

Ведаем, што папяровыя грошы пры варунках абясьпекі золатам, яшчэ лепшыя грошы, як залатыя. Але гэта яшчэ ня ўсё, трэба дабрацца да гэтага клубка гаспадарчых зносін і знайсьці прычыну, чаму гэтыя грошы ўцякаюць з вёскі да Вільні і, разам з гэтым, знайсьці спосаб, каб яны, цяжка заправаваныя селянінам, служылі яму тым аружжам, якім яны служаць гандляру. Зразуменьне гэтага ня так трудна, як можа быць пакажацца не аднаму і некалі часта я спатыкаў сялян, якія гэтую рэч разьбіралі надта талкова і перашкодай для рэалізацыі зразумелай ідэі быў тады недахват веры ў сябе, свае здольнасьці, і даверыя да сваіх-жа сялян.

Мне здаецца, што не зраблю вялікай памылкі, калі скажу, што сучаснае палажэньне нашага селяніна-беларуса шмат у чым падобна да палажэньня, ў якім знаходзіліся гадоў з трыццаць назад пазнанскія сяляне ў Нямеччыне. Ёсьць розьніца ў тым, што пазнанскі селянін, апрача ўсяго, яшчэ павінен быў зубамі і рукамі трымацца за зямлю і будавацца на калёсах.

Гэты пазнанскі селянін, прыдушаны са ўсіх старон адразу зразумеў, чым і як ён мае бароцца. Ён зразумеў, што ўвесь сэнс і сіла тут у грошах, а таксама і ў спосабе іх карыстаньня, і з тае пары пачаў пазнанец будаваць свае вясковыя коопэратыўныя банкі.

Мушу сказаць, што аднача сна з пазнанскім селянінам прышоў да розуму і пазнанскі пан, і таксама пачаў будаваць банкі, бо яго нямчура сьціскаў ня менш за селяніна.

Як пасьля аказалася, ўсе панскія банкі аказаліся куды слабейшымі за сялянскія, і праістнаваўшы некалькі гадоў, ўсе яны збанкрутавалі і зямлю немец усю амаль не задарма забраў, а селянін, дзякуючы дапамозе вясковага банку, зямлю сваю ўтрымаў. У сучасны момэнт сялянскія банкі ў Пазнані, каторых есьць больш як трыста, злучаныя ў адну цэнтралю пад назовам „Bank spółek zarobkowych“, зьяўляюцца магутнейшай фінансавай арганізацыяй усяе Рэчыпаспалітай.

Я ўжо чую, на гэта адказ селяніна: „Грамадзянін! тае здаецца, што другую Амэрыку нам знайшоў? гэта старое... У нас яшчэ да вайны былі так-жа вясковыя банкі і зрабілі нам толькі тое, што вывезьлі нашыя грошы ў Расею“.

Што вывезьлі вашыя грошы ў Расею з гэтым згаджаюся, але-ж і скажу тое, што тыя банкі, што былі па вёсках перад вайной, былі роблены не вамі, сялянамі, а царскімі вураднікамі і, тэхнічна і матар'яльна былі залежны ад расейскага скарбу і праз гэта-ж, калі пачалася вайна, то з прычыны гэтай, што яны былі гаспадарамі, а ня вы, сяляне, дык і вывязьлі вашыя грошы, як свае. Гэта так сама, як быццам нехта чужы прыехаў у вашу вёску і прывёз цэлы арсэнал усялякіх патрэбных у гаспадарцы рэчаў, а калі ўгледзеў, што вайна, дык забраў на воз сваё і вашае і павёз, ня пытаючы.

Трэба ведаць, што ў сучаснай капіталістычнай гаспадарцы банк патрэбны ня менш як школа, дзеля таго, што мы добра ведаем, што сконцэнтраваны капітал ёсьць вялізарная сіла—інакш кажучы—гэта альфа і омэга нашага жыцьця.

Банк, як такі, зьяўляецца сам па сабе арсэналам, складам розных патрэбных нам рэчаў, з якога мы заўсёды можам карыстаць; без яго немагчыма жыць, хочучы жыць так, як гэта вымагаюць сучасныя капіталістычныя варункі ўтрыманьня правільнае гаспадаркі.

Ня трэба чакаць што польская ўлада прыдзе, па прыкладу расейскай, рабіць нам банкі і можам быць пэўны, што ня прыдзе, бо ведае, што гэта не яе работа.

Дзеля таго, каб гэты банк прынасіў селяніну карысьць і каб ён быў незалежны ні ад каго пастаронняга, трэба каб ён вырас з сьвядомасьці сялян, што ён ёсьць непадзельнай часткай капіталістычнай гаспадаркі селяніна.

Пара зразумець, што селянін усюды, ва ўсіх часьцях сьвету, за вынятка м Нямеччыны ёсьць фундамэнтам гаспадарства. Гэта нам паказала апошняя сусьветная вайна, а найбольш у нас у Беларусі. Гэты семгадовы танец Марса ў нашым краі паказаў, што наш селянін-беларус моцна загартованы, можа яшчэ мацней за пазнанскага. Гарт гэты трэба самому селяніну ацаніць, бо інакш яго будуць выкарыставаць іншыя на некарысьць нашу.

Я чуў што ў дзікароў ёсьць абычай пробаваць чалавека ў гадох 18—20 яго жыцьцёвы гарт і здольнасьць стаўляньнем на гарачыя каменьні, даваньнем трымаць гарачыя вуглі ў жмені, выбіваньнем зубоў і г. д. Хачу чытача запэўніць, што беларускі селянін за час семгадовай вайны ўсё гэта прайшоў, калі яя болей.

Экзамін гэты ў дзікароў для дзікара зразумелы: пасьля яго ён лічыць сябе свабодным, самастойным і незалежным.

Пара ўрэшце гэта зразумець і селяніну-беларусу і ўзяць свае банкаўскія справы ў свае рукі.

І—скі.

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

— У сувязі з пастановамі палітычнага камітэту рады міністраў датычна справаў пільнаваньня граніцы і бясьпечнасьці на ўсходніх акраінах, выданы ўжо загады аб ухіленьні з пагранічнае лініі зарасьнікаў і дрэваў, якія страшэнна перашкаджалі паўненьню гранічнае службы. Разбудаваньне тэлефоннае сеткі шпарка ідзе наперад. Азбраеньне акраіннае паліцыі будзе дапоўнена прызначэньнем машыннае зброі, а таксама большага

# ТЫПЫ ПАЛЕСЬСЯ

*(Глядзі № 13 „Грам. Голасу“).*

— Ну, ну сядай, сябар, чаго там! — зьмяніўшымся голасам і ўжо ласкава загаманіў Белашапка, падходзячы да Ганчара.

— Сядай, сядай, я так браток пажартаваў... Не крану я лесу... Гэта ў нас заўсёды бывае, — зьвярнуўся ён да мяне.

— Вось як сойдземся, дык і пачнём — я пра сад, ён пра лес...

На хвілю замоўклі... Дзесь высока заліваўся яскронак на розныя лады. Сьверашчэлі маліна ўкі і чыжыкі, ў галінах яблыняк зьвінелі пчолкі на красках, зьбіраючы мёд... Усё жыло! Усё хваліла Даўшага Жыцьцё... Ветрык ласкава калыхаў галіны дрэваў, быццам цалаваў кожную краску і далей ляцеў, прымусіўшы белую бярозку зашамацець усімі лісткамі, крануў высокую елку, якая пагардліва кіўнула яму на развітаньне вострай шапкай і зноў стала спакойна глядзець у высокае неба, з якога пасылала праменьні жыцьця далёкае сонца.

— Ну, пара! — перарваў цішыню Ганчар.

— Пайдзем, сябар! — зьвярнуўся ён да мяне. Я падняўся. Моцна сьціснулі на разьвітаньне далоні.

— Зямля — гэта Божы дом — замысьленна сказаў Белашапка.

— Праўда Ганчар? — зьвярнуўся ён да яго.

— Той глянуў на яго, на мяне і сказаў: Хадзем!..

— Мы пайшлі.

Белашапка доўга стаяў, гледзячы нам усьлед і калі мы гатовы былі схавацца ў гушчары лесу, да нас даляцеў яго голас:

— Праўда Ганчар?

— Той адвярнуўся, зьняў шапку і крыкнуў:

— Лес — праўда-а-а!..

— Таксама і сад! — даляцеў да нас адказ Белашапкі, калі мы былі ўжо ў лесе.

— Хай і сад! — пракрычаў Ганчар.

Ня ведаю, ці чуў яго Белашапка.

Я ішоў і думаў: цікавыя яны людзі і колькі іх тутака захована ў лесе?

Мы йшлі.

Лес шумеў, кланяўся нам сваімі зялёнымі шапкамі і, здаецца, чуць прыметна казаў:

«Сярод маіх грудзей знайдзеш ты, чалавеча, адпачынак і спакой. Болей нідзе»...

## V.

## АГНІШЧА.

Ужо сонцавы праменьні сьвяцілі чырвонай вячэрняй зарніцай, калі мы з Ганчаром селі адпачыць сярод трох вялікіх дубоў.

Ганчар любоўна паглядзеў на дубы, памацаў іх рукой і сказаў:

— Добрыя дубы. Мусіць разам расьлі, стаяць друг ля дружкі, як родныя браты!

І праўда, дубы расьлі адзін ля аднаго на роўным растанку, робячы пасярод сябе вельмі прыемны пакойчык у тры куты з розьніцай той, што ў гэтым пакойчыку замест століі была зялёная, густая страха з іхніх лісьцяў і галін, і замест лавак і стала былі тоўстыя карэньні, на якіх мы паважна расьселіся.

— Вось, бачыце, як добра! — задаволены загаманіў Ганчар, дастаючы з торбы сала, хлеб і бутэльку з самагонам... — У лесе ўсё магчыма знайсьці: і хату, і стол, і лаўкі і яду, — пачаў ён лічыць, — дый што там гаманіць — лес гэта ўсё, каб лесу ня было, дык вось, дальбо, ня жыў бы на сьвеце, а ніводнай хвілі, — закончыў ён, наліваючы гарэлку ў бяростую прыгожую чарку.

— Вось маеце! — казаў ён — пеце да мяне. Я выпіў. Самагон быў добры.

— Пасьля аднэй не закусваюць, — сказаў ён і наліў другую чарку, і гэта апынілася тамака, куды трапіла і першая

— Вось гэта панашаму, ўсьміхаючыся сказаў Ганчар, выпіваючы чарку за чаркай, кракнуў і пачаў есьці.

Ужо нашая вячэра падыходзіла да канца, калі Ганчар раптам з трывогай агляну ўся і пацягнуў паветра носам.

— Гм, — прабурчэў ён — Здаецца, нешта недзе гарыць, — сказаў ён, падняўшыся з месца.

— Так і ёсьць, недзе гарыць лес! — сказаў ён і пачаў хутка складаць у торбу харчы. Відаць было па ім, што ён быў моцна ўзбураны. Я ледзьве пасьпяваў за ім

Сонца ўжо зайшло і цені станавіліся ўсё гусьцейшымі ды гусьцейшымі. Надыходзіла ночка. Але цемната ня шкодзіла Ганчару ісьці туды, адкуль ён учуў пах гарэлага лесу.

Ужо добра было чуць пах дыму і, нарэшце, мы апынуліся сярод палянкі, з якой валіў дым, а агню ня было відаць.

— Гэй, хто там? — крыкнуў Ганчар, здымаючы стрэльбу.

— Свае! — адызваецца спакойна голас з-за стаупоў дыму.

— Чаго-ж ты гэтакае агнішча разлажыў? — ідучы на голас гаманіў Ганчар.

Дзяргач.

*(Працяг будзе).*

ліку перавозачных прыладаў, як: самаходы, мотоцыклі і коні. Таксама будуць выпаўнены этаты паліцыі ў пагранічных пяветах.

— Пан Прэзэс Рады міністраў і міністар скарбу Ул. Грабскі, адбываючы вакацыйную падарож па Малапольшчы самаходам, быў 9 гэт. месяца ў Закапаным разам з сынам і сэкрэтаром прэзыдыуму Рады Міністраў д-рам Браніславам Легежынскім. Чародныя два дні пан прэм'ер прабыў у Татрах, наведаўшы Марское Вока і Чорны Стаў, а таксама й Касьцяліцкую даліну. У паваротнай дарозе п. Грабскі замерваўся наведацца ў Яварыну і Шмелё, што аднак-жа не ўдалося з прычыны спраціўлення гранічнае чэхаславацкае варты, ня гледзячы на тое, што прапускі былі ў парадку.

— Чычэрын у адказе на польскую ноту аб напалзе на Стоўпцы паведамляе, што савецкія ўлады робяць сьледзтва і аб рэзультатах яго будзе паведамлена Польшча.

**За граніцай.**

— Лёнданская конфэрэнцыя зацягнулася з прычыны неразрашэньня дасюль кардынальнага пытаньня аб эвакуацыі чужаземных войск з Рурскага басэйну. Хаця гэтае пытаньне не ўваходзіла ў праграму конфэрэнцыі, аднак-жа ад яго вырашэньня залежыць ўвесь лёс яе.

— Уся **нямецкая** прэса паказвае на тое, што законы, якія павінны быць прыняты ў сувязі з прыняцьцем пляну Давіса, ніколі не адтрымаюць патрэбных $^2/_3$ галасоў, калі толькі ў Лёндане ня будзе прынята рашэньня аб незабаўнай эвакуацыі Руры.

— **Амэрыканскія** банкіры заявілі, што амэрыканская пазычка ў суме 800 мільёнаў залатых марак хутка будзе гатова для падпіскі.

— **Баўгарскае** тэлеграфнае аген. паведамляе, што 13. VIII. гэт. г. ваенны патруль знайшоў на поўнач ад затокі Бургаз у патайным месцы 20 скрынак рэвальвэраў з набоямі да іх, 10 скрынак гранатаў і 40 скрынак набояў да стрэльбаў. Увесь гэты ваенны матар'ял быў загатоўлены ў С.С.Р.Р. Пачата энэргічнае сьледзтва з мэтаю знайсьці вінаватых у выгрузцы гэтага матар'ялу.

— У расклееных па горадзе **Клайпэдзе** адозвах літоўскія ўлады абвінавачваюцца ў катаваньні ў вастрозе арыштованых сяброў нямецкага замаху.

— Паводлуг вестак з **Софіі**, баўгарскі мінаносец затрымаў каля берагоў Чорнага мора парусны карабель з 80 скрынкамі зброі і амуніцыі. Вёзшыя ўсё гэта арыштованы. Зброя— расейскага паходжаньня.

— Прыбыўшы ў Нэаполь савецкі крэйсэр „Воровский“ адплыў у Эгіпэт, адкуль вернецца ў С. С. Р. Р. Афіцэры крэйсэра заявілі, што саветы адбудоўваюць балтыцкі і чарнаморскі флёт, лічачы абмылкаю зьніштажэньне царскага флёту.

— Паводлуг вестак з **Лёндану**, пасьля перагавораў францускага прэм'ера Эрыо з нямецкім канцлерам Марксам, апошні адмовіўся ад думкі камандзіраваць Лютэра ў Бэрлін, а абмежаваўся тэлеграфнаю перапіскаю з прэзыдэнтам нямецкае Рэспублікі.

— **Нямецкая** дэлегацыя ў Лёндане прасіла ў свайго ўраду поўнамоцтваў на заключэньне дагавору з франка-бэльгійскаю дэлегацыяй па пытаньню аб эвакуацыі Руры.

— 15. VIII. пад маршалкоўствам прэзыдэнта **Нямецкае** рэспублікі адбылося паседжаньне рады міністраў па справе лёнданскіх перагавораў. Па пытаньню аб эвакуацыі Руры кабінэт заняў пункт гледжаньня нямецкае дэлегацыі ў Лёндане.

— Ня гледзячы на афіцыяльнае запярэчаньне з боку **Баўгарыі**, праз Бэрлін пашыраюцца самыя трывожныя чуткі аб палажэньні *на Балканах*. Паведамляюць, што ў Баўгарыі рыхтуецца дзяржаўны пераварот, а **Грэцыя** з **Сэрбіяй** зрабіла паразуменьне аб супольным выступленьні проці Баўгарыі. Баўгарскі ўрад стараецца стварыць за граніцаю ўражаньне поўнага спакою ў краі. Грэцкае пасольства ў Вене прызнае, што Грэцыя і Югаславія паслалі Баўгарыі кароткі ультыматум з заяваю, што калі баўгарскі ўрад не установіць парадку на граніцы дык грэцкія й югаславянскія войскі могуць перайсьці баўгарскую граніцу, прасьледуючы бандытаў.

— Як паведамляе аг. Вольфа, з Лёндану, нямецкая дэлегацыя была ў Макдональда, каб выясьніць пытаньне аб эвакуацыі Руры. Дэлегацыі было абвешчана што француская прапазыцыя аб ачышчэньні Руры ў працягу гадавога сроку павінна быць прынята. Эрыо таксама пацьвярдзіў, што эвакуацыя саюзьніцкіх войскаў пачнецца цераз год пасьля падпісаньня паразуменьня і адступленьняў ад гэтага быць ня можа. Ад разгляду дэталяў гэтага пытаньня Эрыо катэгорычна адмовіўся. Перагаворы яшчэ не перарваны. На 17 жніўня назначана паседжаньне чатырнаццацёх.

— Паводлуг вестак з **Італіі**, ў мясцовасьці Вальдарно ўжо некалькі дзён цягнецца забастоўка 2000 горнарабочых. Забастоўка пачалася на эканамічным грунце і мае спакойны характар, але рашучы. У Вальдарно выехала некалькі паслоў дзеля пасрэдніцтва ў перагаворах горнарабочых з прамыслоўцамі.

— Паводлуг вестак з Латвіі, група украінскіх социялістаў-рэвалюцыянэраў у **Харкаве** абвясціла ў „Вістях“ адозву да сваіх партыйных таварышоў, заклікаючы іх да ліквідацыі партыі і пераходу ў камунізм.

— Як паведамляюць з **Омску** (Сыбір), губэрнскі суд засудзіў 9 сяброў гэтак званае „Никитинской рабочей организации“ на расстрэл і 23-х на 10 гадоў катаргі.

— Як паведамляюць з **Гагі**, паміж **Голяндыяй** і С. С. Р. Р. ідуць неофіцыяльныя перагаворы аб аднаўленьні дыплёматычных зносін паміж імі. Як чуваць, у Газе згаджаюцца на прызнаньне саветаў de jure бяз выстаўляньня спэцыяльных варункаў.

— У **Нарвэгіі** кароль распусьціў парлямэнт; новыя выбары адбудуцца ў канцы бягучага тыдня.

Адна з венскіх газэт паведамляе, што павадыр харвацкае сялянскае партыі ў **Югаславіі** Радзіч на партыйным паседжаньні зрабіў справаздачу аб сваім пабыце ў Англіі і С. С. Р. Р. Ён падкрэсьліў, што яго мэтай было паінфармаваць заграпічных палітыкаў аб справах Харватыі, а таксама аб яе адносінаньні да Сэрбіі. У Маскве ён дабіўся таго, што ў выпадку правядзеньня ў Харватыі гэтак зван. македонскіх выбараў ці магчымай рэвалюцыі і абвешчаньня Харвацкае рэспублікі, саветы адразу прызнаюць харвацкі ўрад. Аб новым югаславянскім урадзе Радзіч ад'зываецца скэптычна.

— З Ангоры паведамляюць, што **Турцыя** нібыто адтрымала ад Саветаў ноту з трэбаваньнем эвакуацыі і аддаданьня назад крэпасьці Карс цераз 3 месяцы.

— 13-га жніўня ў **Лёндане** адбылося апошняе аканчальнае паседжаньне англа-савецкае конфэрэнцыі.

— Кандыдат у Прэзыдэнты Паўночна Амэрыканскіх Злучаных Штатаў Давіс у аднэй з сваіх публічных прамоваў выказаўся за раззбраеньне і мір.

# Агляд прэсы.

**Доля соцыялістаў.**

Пад загалоўкам „Весткі з Салоўкаў“ расейская газэта „Дни“ піша:

„З Масквы нас паведамляюць аб новых жудасных вестках з Салоўкаў аб палажэньні там палітычных арыштантаў; весткі гэныя адносяцца к канцу чэрвеня.

# Аб сучасным стане беларускага мастацтва

## (КУЛЬТУРНЫЯ АГУЛЫ) *).

### I.

Жыцьцё кожнага народу, так, як і паасобнага чалавека, складаецца з цэлага раду фізычных і духоўных зьявішчаў, выклікаемых рознароднымі фактарамі. Усе гэныя зьявішчы, апрача прыродных, зьяўляюцца творчымі актамі людзкога Гэнія і маюць на мэце, або здаволеньне цялесных патрэбаў чалавека, або выяўленьне ягонае духоўнае натуры.

Да праяваў жыцьця фізычнага належаць: прамысловасьць, гандаль, земляробства, будаўляны рух, тэхнічны прогрэс і г. д.

Жыцьцё духоўнае выяўляецца ў рэлігіі, навуцы, палітыцы; ў мастацтве і літэратуры і г. д.; пры гэным трэба ад'значыць, што ў апошніх дзьвёх галінах, жыцьцё гэнае знаходзе найбольш жывы і ўсестаронны адбітак.

Адна з іх, ласьне мастацтва, разглядаемае ў рамках Беларусі, і паслужа тэмай для нашага артыкулу, ў якім пастараемся зрабіць падсумоўку дасюлешніх дасягненьняў Беларусаў у гэнай галіне і выявіць прычыны яе сучаснага стану.

Пачнем наш агляд з беларускай Музыкі!

Некалькі зборнікаў беларускіх народных песьняў; жменька арыгінальных дробных твораў; пара чужацкіх кампазыцыяў на беларускія тэмы („Rapsodja Litewska“ — Karłowicza; „Suita białoruska“ — Rogowskiego), зарадзь-прымітыў беларускае опэрэты, ў форме народных п'есаў з пяяньнем і танцамі—вось з большага ўсё тое, чым дасюль можа пахваліцца беларуская музыка!

Сапраўды не зашмат!

Гэткія рэчы як беларуская опэра, сымфонія, ці запраўдная артыстычная апэрэта лунаюць яшчэ ў краіне фантазыі зьяўляючыся, пакуль што, толькі прыгожымі лятуценьнямі!

Праўда, — да сцэнічнае паэмы М. Чарота „На Купальле“, вядомы беларускі кампазытар Тэрраўскі (ў Менску), дарабіў музыку, ствараючы гэткім чынам, нешта ў родзе музыкальнай драмы. Праўда, што другі кампазытар-беларус Казура (ў Вільні) імкнецца, каб тварыць вялікшыя, паважнейшыя рэчы і нат, апошнім часам „махнуў“ сымфонію, публічна споўненую ў віленскай „Lutni“ праз злучаныя аркестар і хор, — аднак-жа трэба ад'значыць, што гэта ня столькі рэальныя, мастацкія дасягненьні, колькі сымпатычныя спробы і дабрародныя імкненьні ў краіну хараства, а таму ўсе ранейшыя ўвагі адносна гэнага пытаньня, апошнімі фактамі не парушаюцца і застаюцца ў сіле.

З людзей, якія працуюць на гэнай ніве, апрача памянутых ужо Тэрраўскага і Казуры трэба ад'значыць Равенскага і А. Грыневіча, заслужаных, як і Тэрраўскі, зьбіральнікаў-гарманізатараў беларускіх народных песьняў, аўтараў падручнікаў да сьпеву і ініцыятараў, арганізатараў, а падчас і рэгентаў школьных (і іншых) беларускіх хораў, з якіх на найвялікшую ўвагу заслугоўвае Беларускі Дзяржаўны Хор у Менску, пад кіраўніцтвам Тэрраўскага і Хор Бел. Драм. Майстроўні ў Вільні.

Яшчэ менш можна казаць аб беларускім балеце.

Беларускія, народныя танцы: лявоніха, юрка, бычок, мяцеліца; першы беларускі балет Буўніцкага, ўжо ніяістнуючы, які аб'яжджаў нашу провінцыю ў пачатку гэнага стагодзьдзя, вось усё тое, што нам вядома аб беларускім харэаграфічным мастацтве. Хадзілі, праўда, глухія чуткі, аб нейкіх навуковых адкрыцьцях, ці знаходках, у гэнай краіне, дакананых быццам, апошнімі часамі, ў Менску, але ці праўда гэта і ў чым зьмест гэных адкрыцьцяў, даведацца добра так і не ўдалося.

Як бачым наш палетак, з дзьвёх, разгляданых вышэй, ніваў беларускага мастацтва, ёсьць даволі такі малы. Нажаль гэна ёсьць яшчэ лепшыя галіны, бо што-ж можам казаць аб беларускім малярстве, разьбе.

Гэных галінаў у нас так як і няма.

Нават адпаведныя назовы для гэных двох галінаў мастацтва яшчэ ня створаны. Вось якая злыбяда...

І толікі ў краіне беларускага Тэатру, цесна зьвязанага з літэратурай, (якая стаіць паасобку ад комплексу мастацтва і дзеля таго тут разглядацца ня будзе) можа крыху супачыць і усьцешыцца, збалелае ад віду гэткае ўбогасьці роднага мастацтва, сэрца і дух беларускага інтэлігэнта, бо тут намыснае разьвіцьцё ўзаемазалежных і ўзаемаўплываючых драматычнае літэратуры і тэатру даець асновы да якнайлепшых спадзяваньняў!

У гэнай галіне, пачаўшы ад аматарскіх музыкальна-драматычных гурткоў, цераз розныя, ўсё больш і больш паважныя спробы, дайшлі мы ў канцы да гэтак паважных тэатральных установаў, як, наладжаныя апошнімі гадамі, Беларуская Драматычная Майстроўня ў Вільні, што імкнецца да запраўднага артызму ў сваех тэатральных пастаноўках, праз дасканаленьне дэкарацыяў і грыму і поўную жыцьцёвага рэалізму ігру, і Беларускі Дзяржаўны Тэатр у Менску, абслугоўваемы праз прафэсыянальных артыстаў, карыстаючыся грашавой падмогай ураду і выстаўляючы найлепшыя п'есы беларускага і сусьветнага тэатральнага рэпэртуару.

**Язэп Сьветазар.**

*(Канец будзе).*

*). Артыкул друкуецца ў парадку дыскусіі. *Рэд.*

